# КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№ 2 (210)
2018 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

## ТОП-10 ЗАРОБКАЎ БЕШАНКОВІЦКІХ ЧЫНОЎНІКАЎ

**17-га студзеня Бешанковіцкая раённая выбарчая камісія зарэгістравала кандыдатаў у дэпутаты Бешанковіцкага раённага Савета дваццаць восьмага склікання.**

Адзіная акруга, дзе будзе выбар паміж двума кандыдатамі, – Школьная выбарчая акруга №5. Тут балатуецца Ягор Левачоў, настаўнік лагера "Зубраня" і Аляксандр Ерашоў, намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Бешанковіцкага райвыканкама.

Паастатніх акругах мы усім галасаваць за безальтэрнатыўных кандыдатаў.

У папяровым варыянце "Зары" з'явіўся цікавы матэрыял пра будучых народных абраннікаў. Упершыню за апошнія гады мы можам адкрыта зазірнуць у кішэні будучым народным абранікам, параўнаць іхнія даходы. І хоць тыя даходы задэклараваныя за пазамінулы 2016 год, усё роўна гэта цікава, за якія грошы служаць народу чыноўнікі.

На першым месцы па даходах стаіць Невельская Вольга, дырэктарка цэнтра банкаўскіх паслуг, кандыдатка па Ржаўскай выбарчай акрузе №15. У 2016-м годзе ейны заробак склаў 25389, 13 рублёў, то-бок ейны месячны заробак перавысіў 2000 рублёў.

На другім месцы знаходзіцца Аляксандр Пашкевіч, дырэктар Ульскага ліцэя, кандыдат па Ульскай выбарчай акрузе №25. У 2016 годзе ягоны заробак склаў 24833, 32 рубля. То-бок і ягоны месячны заробак перавысіў 2000 рублёў.

На трэцяй пазіцыі з сумай 20520, 32 знаходзіцца старшыня Бешанковіцкага раённага Савета дэпутатаў Генадзь Шведаў, кандыдат па Сокараўскай выбарчай акрузе №24. Ягоны сярэднямесячны заробак склаў усяго 1710 рублёў.

Чацвёртае месца ў спісе выпала дырэктару "Бешанковіцкага камунальніка" Ігару Сліўцу з агульнай сумай 19364, 62 руб. і сярэднямесячнай 1610 рублёў. Ён вылучаецца па Свячанскай выбарчай акрузе №21.

На пятым месцы Аляксандр Камовіч, дырэктар "ПалітаддзелецАгра" з сярэднягадавым заробкам 17419, 35 руб. і сярэднямесячным больш за 1450 руб. Ён ідзе па Палітаддзельскай акрузе №19.

Лічаныя рублі саступіў яму Віктар Кавалёнак, начальнік газазабяспячэння Бешанковіцкага раёна. Ягоны гадавы заробак у 2016-м годзе склаў 17385,74 руб, а сярэднямесячны каля 1450 руб. Балатуецца па Бачэйкаўскай акрузе №23.

На сёмым месцы стаіць намеснік старшыні Бешанковіцкага РВК па эканоміцы Таццяна Ждановіч. Ейны гадавы заробак склаў 16538, 14 руб, а сярэднемесячны крыху недацягнуў да 1400 руб. Балатуецца па Драздоўскай акрузе №20.

Восьмае месца з сумай 16249, 9 руб. у спісе займае Сяргей Рэуцкі, кіраўнік справамі Бешанковіцкага РВК. Ягоны сярэднямесячны заробак у 2016 годзе склаў больш за 1350 руб. Балатуецца па Будзілаўскай акрузе №14.

Дзявятае месца ў спісе з сумай 15845, 29 руб. займае Уладзімір Кухто, сённяшні намеснік дырэктара Бешанковіцкай ДЮСШ. Ягоны сярэдні заробак перавысіў 1320 рублёў. Балатуецца па Чкалаўскай акрузе №8.

Нарэшце, дзясятае месца ў вастрэйшай барацьбе займае Віталій Галец, Пліская выбарчая акруга №11, які за 2016 год зарабіў 14653, 95 руб. (у месяц – больш за 1200 руб.) Ён на нейкую сотню рублёў апярэдзіў Ніну Карпушэнка, галоўнага ўрача Бешанковіцкага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

З апублікаванага дакумента мы можам меркаваць пра заробкі старшынь сельскіх Саветаў народных дэпутатаў. Так за 2016 год старшыня Астровенскага сельскага Савета атрымаў 12186, 35 руб., то-бок 1000 рублёвую штомесячную праграму-мінімум, якую прэзідэнт плануе нам у светлай будучыні.

У спісе з гадавымі заробкамі, якія не дацягваюць да 10000 рублёў (8000 – 9200), чатыры кандыдаты. Іхнія сярэднямесячныя заробкі ў 2016 годзе складалі дзесьці 700 – 800 руб.

Абсалютным аўтсайдарам спісу з'яўляецца Ягор Левачоў з заробкам 3987, 71 руб. Гэта заробак не месячны, а гадавы. Месячны падлічыце самі.

**А.Тутэйшы**

## СУЗОР'Е АРАБІН

*Калі сьціскае сэрца*
*ў камянях журбы,*
*калі агонь душы*
*прыдушаны зьмяркэньнем,*
*някідкае сьвятло сузор'я арабін*
*разбудзіць цёплы змрок*
*зажмуранага раньня.*

*І смутак, як туман,*
*зьляціць зь нізін рабых*
*на крылах журавоў*
*ад роднага парога.*
*З расстайнай вышыні*
*сузор'е арабін*
*жарынкамі агню падкажа ім дарогу.*

*І раптам захлісьне: твой час*
*даўно прабіў,*
*расплачацца душа тугой*
*па кожнай гронцы.*
*Нязгаснае сьвятло далёкіх арабін*
*цяпельцам будзе грэць цябе*
*ў чужой староньцы.*

*У шлях апошні свой вазьму ўсё,*
*што люблю –*
*і восеньскі туман, і веснавое раньне.*
*Мне да сутоньня дзён*
*сузор'е арабін*
*агеньчыкам жыцьця сьвяціць*
*не перастане.*

**Г.Станкевіч**



З СУДОВАЙ ЗАЛІ

## ЖЫЦЦЁ ЗА БУТЭЛЬКУ ГАРЭЛКІ

**Аповед пра тое, як слесар-рамонтнік УКП «Бешанковіцкі камунальнік» трапіў на лаву падсудных.**

10-га чэрвеня 2017 года слесар-рамонтнік УКП «Бешанковіцкі камунальнік» Краснік распіваў спіртныя напоі ў кампаніі суседа, а затым сваёй былой сужыцелькі і яе маці. Агрэсія была праяўленая Краснікам ужо падчас распівання спіртных напояў, але ахвяра паспела ўцячы. Пасля гэтага Краснік заснуў, а калі ноччу ўзняўся, то выявіў на кухні сваю знаёмую М. Яна была ў моцнай ступені алкагольнага ап'янення і ледзь стаяла на нагах.

Красніка моцна раззлавала, калі ён зразумеў, што знікла бутэлька гарэлкі і спірт. На яго пытанні М. не адказвала, а толькі мычала. Тады ён пачаў наносіць ёй ўдары кулаком у твар, нанёс не менш за 10 удараў, што пацверджана заключэннем судова-медыцынскай экспертызы. Ад нанесеных удараў М. ўпала на падлогу кухні і ён нанёс яшчэ некалькі удараў нагой, куды – не памятае.

Спыніўшы збіццё, Краснік пакінуў М. на тым жа месцы і пайшоў спаць. А калі прачнуўся раніцай, зразумеў, што яна памерла. Краснік вельмі спалохаўся і накіраваўся да супрацоўніка ДАІ, якому паведаміў аб тым, што здарылася. Потым з яго дапамогай звярнуўся з заявай у дзяжурную частку РАУС.

Следства па справе цягнулася больш за 5 месяцаў. Краснік здзейсніў асабліва цяжкае злачынства, за якое санкцыяй артыкула прадугледжана пакаранне ад 5 да 15 гадоў пазбаўлення волі. Характарызуецца ён здавальняюча, пакутуе разумовай адсталасцю і алкагольнай залежнасцю, мае патрэбу ў лячэнні, прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. Абцяжваючай акалічнасцю суд прызнаў тое, што Краснік задумаў злачынства ў стане алкагольнага ап'янення. Змякчальныя абставіны адсутнічаюць.

Суд прызнаў Красніка вінаватым у здзяйсненні злачынства і прызначыў яму пакаранне 9 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах ўзмоцненага рэжыму з прымяненнем прымусовых мераў бяспекі і лячэння ад хранічнага алкагалізму. Іскавыя патрабаванні пацярпелай К. аб спагнанні матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды задаволеныя судом. Прысуд Краснік не абскарджваў. На бліжэйшыя дзевяць гадоў ён знойдзе сабе прытулак у сценах калоніі, а дзяржава зробіць спробу вярнуць яго ў нармальнае жыццёвае рэчышча.

*(скарочана)*

**Намеснік пракурора Бешанковіцкага раёна малодшы саветнік юстыцыі**
**Э. Лешанок**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

## КАНДЫДАТЫ ПРАЖЫВАЮЦЬ У БЕШАНКОВІЧАХ

**Факт застаецца фактам: 9 зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты, якія будуць абірацца па безальтэрнатыўнаму прынцыпу па акругах у сельскай мясцовасці Бешанковіцкага раёна, пражываюць у райцэнтры.**

Гэтыя акругі – Пліская №11, Сініцкая №13, Ржаўская №15, Верхнякрывінская №16, Вярхоўская №18, Палітаддзельская №19, Свячанская № 21, Бачэйкаўская № 23 і Сокараўская № 24. А кандыдат у дэпутаты па Рубежскай акрузе №17 пражывае аж у Лабачове і пры тым працуе не ў Рубяжы.

Калі кандыдат па Палітаддзельскай акрузе прыязджае сюды з Бешанковічаў штодня, бо працуе дырэктарам мясцовага сельгаспрадпрыемства, то астатнія будучыя абранікі народа аніякім чынам са сваімі акругамі не звязаныя.

Няхай да Ржаўкі ці да Верхняга Крывіна з Бешанковічаў можна дабрацца за 10 хвілін. А вось у Сініцы ці Плісы так хутка не патрапіш. Дарога ў адзін бок да гэтых мясцін зойме каля гадзіны часу. Зразумела, што сувязь са сваімі выбарцамі ў дэпутатаў будзе чыста ўмоўная. Скажам шчыра, што ўсе тыя безальтэрнатыўныя "абранікі" не наведаюць за час свайго дэпутацтва ўсе вёскі сваіх акругаў хаця б па аднаму разу, не кажачы ўжо, што будуць займацца там вырашэннем надзённых пытанняў.

Думаецца, што такі стан рэчаў толькі спрыяе таму, што нашы аддалёныя вёскі выміраюць. Заўважце, што вымірць пачалі ўжо былыя цэнтры вялікіх калгасаў і саўгасаў: Сініцы і Плісы, Сокарава і Рубеж. Тут адзін за другім пазачыняліся школы, садкі, пошты і ФАПы. Тут няма магчымасцяў уладкавацца на нейкую працу, акрамя як даглядаць адзінокіх пенсіянераў.

Ці ўсведамляюць хаця б тыя "абраннікі", што ў зніканні нашых вёсак з раённай мапы ёсць і іхняя заслуга?

**А.Тутэйшы**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ЗМІНУСАВАЛІ ПА МАЛАКУ

**У 2017 годзе сярэдні надой на адну карову ў Віцебскай вобласці склаў 4003 кг. Гэта на 107 кг менш, чым за 2016 год, калі гэта лічба была 4110 кг.**

Лепшы надой на карову ў 2017 годзе атрымалі гаспадаркі Віцебскага раёна. Ён склаў 5254 кг, што на 57 кг вышэй за паказчыкі 2016 года.

Лідар 2016 года – Верхнядзвінскі раён зваліўся з 5544 кг да 5237 кг, мінус у раёне склаў 307 кг.

Бешанковіцкі раён, які ў 2016 годзе надаіў 5401 кг малака на карову, змінусаваў яшчэ больш – 356 кг і з надоем 5045 заняў толькі чацвёрты радок "турнірнай" табліцы.

Абласныя начальнікі тлумачаць зніжэнне надояў незвычайна неспрыяльным годам для жывёлагадоўлі.

А вось СВК "Ларынаўка" Аршанскага раёна гэты незвычайна складаны год не перашкодзіў да 10002 кг малака на карову ў 2016 годзе дадаць яшчэ 277 кілаграмаў. Тут у 2017 годзе надой склаў 10279 кг.

**М.Васільеў**

АДУКАЦЫЯ

# ТОП-15 ЦЫТАТ ПРА ФІНСКУЮ ШКОЛУ

**Найлепшы педагог свету, эксперт фінскай сістэмы адукацыі Кары Лаўхівуоры даў майстар-клас, на які патрапіла больш за 1200 беларускіх педагогаў з усіх куткоў краіны.**

Друкуем выказванні фінскага эксперта, якія з'яўляюцца актуальнымі і для Беларусі.

**1.** Галоўныя сакрэты фінскай адукацыі: кароткі школьны дзень, шмат гульняў, мала хатніх заданняў, доўгія вакацыі. І гэта — не жарт!

**2.** Адно з асноўных дасягненняў школьнай рэформы ў Фінляндыі — канец школьным інспектарам. Інспекцыя — гэта тэатр. Усе апранаюць касцюмы, усміхаюцца інспектару. Дзяцей запалохваюць: калі зробіш нешта не так падчас праверкі, потым атрымаеш! А калі праверка сканчаецца, усё выдыхаюць: нарэшце вернецца нармальная жыццё!

**3.** У Фінляндыі цалкам бясплатная адукацыя. На ўсю краіну існуе толькі адна прыватная школа. Усе астатнія — дзяржаўныя, і ўсе яны аднолькавыя. Для вучняў усё бясплатна, уключаючы харчаванне. Але мы не трацім грошы на тое, што не трэба.

**4.** Поўны давер настаўнікам. У Фінляндыі наогул усё пабудавана на даверы. Урад давярае муніцыпалітэтам, муніцыпалітэты дырэктарам школ, дырэктары — настаўнікам, настаўнікі — вучням. А бацькі цалкам давяраюць школе.

**5.** Прафесія настаўніка прэстыжная. Настаўнікі вельмі добра зарабляюць і з'яўляюцца паважанымі людзьмі. Але і ўзровень у іх павінен быць адпаведны. Кожны настаўнік павінен прайсці навучанне ў магістратуры.

**6.** У Фінляндыі няма тэстаў і экзаменаў. Дакладней, ёсць, але толькі адзін — пры заканчэнні сярэдняй школы. Бо настаўнік лепш ведае, на што здольны кожны яго вучань! Што ж тычыцца школ і настаўнікаў — у нас няма неабходнасці даказваць, што наша школа лепшая, чым суседняя. Толькі зрэдку па ўсёй Фінляндыі праводзіцца выбарачнае даследаванне, каб пераканацца, што ўсе школы знаходзяцца на адным узроўні.

**7.** Мы не параўноўваем вучняў адзін з адным. Гэта рабіць катэгарычна нельга, бо ўсе дзеці розныя! Вучань павінен ацэньваць сваё развіццё, а не арыентавацца на навыкі іншых. Трэба паказваць дзіцяці, якога прагрэсу дасягнула яно.

**8.** Адзнакі ў фінскай школе ёсць, але яны не вельмі важныя. У Фінляндыі дзесяцібальная сістэма, але, як правіла, ніжні бал, які ставіцца, — 4. Калі ты атрымаў «чатыры» — гэта фіяска, курс трэба паўтарыць. А «васьмёрка» — вельмі добрая адзнака. Але адзнака значыць не так ужо шмат — для вучня значна важней атрымаць вербальную зваротную сувязь. Асабліва ў пачатковай школе. Як правіла, настаўнік збірае вучняў і бацькоў некалькі разоў на год, і яны абмяркоўваюць вучобу. Прычым усё адбываецца вельмі пазітыўна — упор робіцца на дасягненні вучняў. І яшчэ адзін важны момант: настаўнік заўсёды сапраўды тлумачыць, чаго ён хоча ад вучня.

**9.** Школьная форма ў Фінляндыі — гэта худзі і джынсы. Настаўнікі таксама ходзяць у талстоўцы або худзі і джынсах. Усё вельмі неафіцыйна. Так, калі дзеці падрастаюць, яны пачынаюць глядзець на «фірму», у каго джынсы даражэйшыя, у каго таннейшыя. Але гэта не такая ўжо вялікая праблема, якая ні на што не ўплывае. У прынцыпе, у нас усё вельмі дэмакратычна. Настаўнікаў называюць толькі па імені. Мяне маглі называць або Кары або Рэксі (Дырык). І калі мне вучань казаў: «Прывітанне, Рэксі!», мяне гэта не прыніжала. Але давала адчуць, што я не паліцэйскі і не наглядчык, а звычайны чалавек.

**10.** Школа будучага — гэта не робаты і супертэхналогіі. Я заўсёды веру ў чалавечы кантакт і добразычлівыя ўзаемаадносіны паміж настаўнікам і вучнямі. Мне здаецца, што новая школа — гэта выхад з класаў і новыя магчымасці. Сёння нават школа з самай глыбокай глушы, дзякуючы інтэрнэту, можа мець доступ да найлепшых выкладчыкаў свету, можа атрымаць любога спецыяліста. Усе вашыя абмежаванні — гэта ўяўленне.

**11.** Настаўнік — гэта эксперт. У Фінляндыі няма рэформаў, якія навязваюцца зверху. Усе змены і наваўвядзенні абмяркоўваюцца з настаўнікамі. І настаўнікі могуць выбіраць тую методыку, якую лічаць патрэбнай. У гэтым стаўленні ў нас — поўная аўтаномія.

**12.** Што павінны рабіць бацькі? Нічога звышнатуральнага. Ешце разам з дзецьмі. Стасуйцеся з дзецьмі. Чытайце разам з імі. Хадзіце разам у тэатр ці кіно. Тлумачце незразумелае. Цалуйце і абдымаеце дзяцей. Уводзьце правілы бяспекі. І будзьце для іх дарослым, а не сябрам.

**13.** Дапамога дзіцяці ў працэсе навучання эканоміць сродкі для грамадства. Калі дзіця выключаюць са школы, не звяртаюць на яго ўвагі — яно ў перспектыве стане беспрацоўным, наркаманам, сядзе ў турму... Не кажучы ўжо пра трагедыю ў сям'і. Гэта будзе каштаваць вельмі дорага для грамадства. Таму трэба аказваць паўнавартасную падтрымку дзецям у навучанні і разбірацца ў сутнасці праблем, якія не даюць яму нармальна вучыцца.

**14.** Якіх грамадзян павінна выхоўваць фінская школа? Упэўненых і арыентаваных на будучыню; якія валодаюць многімі мовамі; якія маюць крытычныя і аналітычныя здольнасці; інтэрактыўных і здольных узаемадзейнічаць; здольных ацаніць іншых і якія ўмеюць быць удзячнымі; экспертаў па многіх пытаннях і здольных навучацца на працягу ўсяго жыцця; актыўных і інавацыйных; адданых супольнасці; крэатыўных і здольных выкарыстоўваць свой патэнцыял. Не так ужо і шмат...

**15.** У дзіцяці мусіць быць дзяцінства. Яно павінна гуляць і кантактаваць з аднагодкамі. Нават тое, што мы лічым «марнаваннем часу ўпустую» — для яго таксама вельмі важна!

**Наша Ніва**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ШКОЛА Ў БЕЛАРУСІ

**Вядомы беларускі рэпэтытар Яўген Лівянт у інтэрвію Свабодзе дае вельмі жорсткія ацэнкі беларускай сыстэме школьнай адукацыі.**

***— Ці маглі б Вы назваць тры асноўныя дасягненні беларускай сыстэмы школьнай адукацыі?***

— У іншых сфэрах нашага жыцьця я лёгка магу назваць як дасягненьні, так і праблемы за апошнія дваццаць гадоў. Што тычыцца нашай школьнай сыстэмы адукацыі, то няма ніякіх дасягненьняў увогуле за апошнія дзесяць гадоў.

***— Ніводнага дасягненьня?***

— Нядаўна на эканамічным форуме выступаў старшыня камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі Ігар Марзалюк, і я папрасіў яго назваць хаця б адно дасягненьне ў школьнай адукацыі за 10 гадоў. Адказ дэпутата мяне ўзрушыў: «А дзе, як не ў нашай школе, вучыліся тыя маладыя людзі, якія цяпер вучацца ва ўнівэрсытэтах іншых краінаў?» Тое, што пасьля нашай школы частка моладзі паступае ў ВНУ іншых краінаў, было названа дасягненьнем. Іншых не было названа.

***— А якія галоўныя праблемы вы бы вызначылі ў сыстэме школьнай адукацыі?***

—Найгалоўная праблема — адмова ад прызнаньня таго, што ў сістэме адукацыі існуе крызіс. Каб далей вырашаць, што рабіць, трэба спачатку зразумець, што ёсьць. А тое, што ёсьць, вельмі дрэнна. Па маіх ацэнках, каля 25% выпускнікоў школаў валодаюць ведамі толькі пачатковай школы, не вышэй, яны ня ведаюць нічога з таго, што вывучалася з 5 па 11 клясу. І недзе 95% выпускнікоў пасьля заканчэньня школы ня могуць на памяць расказаць ніводнага верша, няважна, на якой мове, ніводнага. Яны ня ведаюць ніводнага фізычнага закону, ня ведаюць ніводнай тэарэмы з геамэтрыі, практычна ня ведаюць нічога. Гэта і ёсьць праява гэтага крызісу.

***— Калі бы да вашага меркаваньня прыслухаліся, якія рэформы ў сыстэме адукацыі вы правялі б неадкладна?***

— Ніводнай рэформы я не праводзіў бы тэрмінова, хутка, без абмеркаваньня, бо ад гэтага ня будзе карысьці, а толькі шкода. Адна з галоўных бедаў нашай сыстэмы адукацыі — калі не пралічыўшы наступствы, не прадумаўшы, не абмеркаваўшы ў экспэртнай супольнасьці, не дапускаючы ніякай крытыкі, прымаюцца рашэньні, якія, можа быць, як ідэі і нядрэнныя, але іх рэалізацыя за кароткі тэрмін прыносіць толькі шкоду. На мой погляд, пачатак новага навучальнага году ў школах быў сарваны, таму што былі пераробленыя за кароткі час падручнікі для многіх клясаў. Яны аказаліся няякаснымі, дрэнна напісанымі, зь вялікай колькасьцю памылак. За тры месяцы і нават за год нельга напісаць добры падручнік. Таксама было прынятае скарасьпелае рашэньне пра перанос часу пачатку заняткаў у школе без адаптацыйнага пэрыяду.

Мы ў ІТ-краіне жывем, але ніхто не выпускае кампутэрную праграму адразу.

Што тычыцца Менску, то памылковым быў перавод аплаты харчаваньня дзяцей праз ЕРІП. Месяц клясныя кіраўнікі займаліся не сваімі асноўнымі абавязкамі, а спрабавалі адаптаваць гэтую сыстэму, каб яна запрацавала. Памянялі праграмы ў многіх клясах. Хутка — нельга, якая б ні была добрая ідэя, найперш трэба адмовіцца ад скарасьпелых рэформаў без усебаковага абмеркаваньня і крытыкі. Мы ў ІТ-краіне жывём, але ніхто не выпускае кампутарную праграму адразу. Праграму замаўляюць, распрацоўваюць, тэстуюць, правяраюць вэрсіі, дапрацоўваюць. Гэта ж відавочныя рэчы. З таго, што я б пасьля абмеркаваньня зрабіў дастаткова хутка, я б скончыў пэрыяд хуткіх рэформаў. Я б радыкальна зьменшыў колькасьць дакумэнтаў, якія павінны запаўняць настаўнікі. Нядаўна Міністэрства адукацыі пастанавіла, што настаўнікам засталося толькі чатыры дакумэнты запаўняць. Але добра было б, каб міністэрства пералічыла, якія дакумэнты цяпер запаўняць ня трэба. Тады б у настаўнікаў не зьяўлялася так шмат пытаньняў. Яшчэ б я даў настаўнікам магчымасьць мець два дні адпачынку на восеньскіх, зімовых і вясенніх вакацыях, два законныя дні, каб аднавіцца, вырашыць нейкія свае праблемы. Гэта крайне важна для працы настаўніка.

***— У сувязі з разьвіцьцём тэхналёгій чалавецтва ў будучыні многія прафэсіі стануць непатрэбнымі. Неўзабаве будзе вельмі шмат людзейпрацаздольнагаўзросту, якім цяжка будзе знайсьці працу. У сувязі з гэтымі выклікамі на каго б вы параілі вучыцца цяперашнім вучням, якія выбіраюць будучую прафэсію? Якія веды, кваліфікацыі будуць запатрабаваныя заўсёды?***

— Не адчуваю сябе экспэртам у гэтай сфэры, не даваў бы глябальных парадаў. Магу паразважаць. Лічыцца, што кожныя два гады інфармацыя ў сьвеце павялічваецца ўдвая ці ўтрая, і адным з наступстваў зьяўляецца значнае павелічэньне гэтай інфармацыі ў школьных праграмах і падручніках. Гэта сур'ёзная праблема. Адзін з кірункаў рэформаў, якія трэба праводзіць, гэта значнае скарачэньне памеру школьных праграмаў. Справа ў тым, што чалавечы мозг, мозг вучня не павялічваецца ўдвая ці ўтрая кожныя колькі гадоў. Праграмы вельмі перанасычаныя інфармацыяй, і мне здаецца, што ў дзяцей ёсьць рэакцыя адарваньня на залішнюю інфармацыю, яны ня здольныя яе пераварваць і засвоіць.

Трэба было б радыкальна скараціць колькасьць інфармацы па ўсіх школьных прадметах ва ўсіх клясах. Я маю на ўвазе матэматыку, фізыку, літаратуру, хімію — усе прадметы.

**Радыё Свабода.**

ПАЛІТАЛОГІЯ

# ЧАМУ НЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА СТВАРЫЦЬ «ПАРТЫЮ ЎЛАДЫ»

**Прапрэзідэнцкая партыя — гэта інструмент мабілізацыі насельніцтва для рэалізацыі задач яе кіраўніцтва.**




Галоўнымі характарыстыкамі сучаснага свету з'яўляюцца няпэўнасць, складанасць і разнастайнасць. Каб праілюстраваць гэту глабальную выснову, звернемся да абстрактнага прыкладу. І тут мне спатрэбіцца машына часу, з дапамогай якой я прапаную чытачам перамясціцца на 500 гадоў у мінулае.

Уявім на хвіліну сярэднестатыстычную маладую сям'ю (французскую, напрыклад, ці кітайскую, прынцыповага значэння не мае), у якой нарадзіўся першынец. З верагоднасцю больш за 90% гэта будзе сялянская сям'я. Здзіўляцца гэтаму не варта: у сярэднявеччы асноўным заняткам насельніцтва была сельская гаспадарка. Для асабліва дапытлівых адзначу, што, нават згодна з перапісам 1897 года, гарадское насельніцтва ў Расійскай імперыі складала 13,4% (у Беларусі — 14,5%).

А зараз — увага! — пытанне. Дакладней, два пытанні. Ці турбавала маладых бацькоў прафесійная будучыня першынца, і якую прафесію, на вашу думку, ён бы абраў?

Нягледзячы на тое, што ні аўтар «Азбукі паліталогіі», ні большасць яго чытачоў не з'яўляюцца спецыялістамі па гісторыі сярэднявечча, думаю, што пошук адказаў на гэтыя пытанні не выклікае ніякіх складанасцяў, бо праблемы выбару, тым больш выбару прафесійнага, для чалавека сярэднявечча не існавала.

Калі ён нарадзіўся ў сям'і селяніна, дык станавіўся селянінам, калі ў сям'і ганчара — ганчаром. Калі жаму пашчасціла нарадзіцца ў сям'і, напрыклад, герцага Бекінгема, то першынец атрымаў бы ў спадчыну тытул і маёнткі, а астатнім нашчадкам па мужчынскай лініі была б наканаваная кар'ера вайскоўцаў, чыноўнікаў ці святароў.

А зараз вернемся ў сучаснасць. У кожнага чытача ёсць родныя ці знаёмыя дзеці малодшага школьнага ўзросту. Якая прафесійная будучыня іх чакае? Адказаць на гэта пытанне сёння не зможа ніхто, у тым ліку і бацькі дзяцей, колькі б намаганняў яны для гэтага ні прыкладалі. Працытую сам сябе: «галоўнымі характарыстыкамі сучаснага свету з'яўляюцца няпэўнасць, складанасць і разнастайнасць». Таму праз 15 гадоў шмат хто з сённяшніх першакласнікаў будзе асвойваць прафесіі, якія яшчэ нават не існуюць.

**Паводле рэцэпту Навухаданосара**

Аднак пяройдзем да азбукавага аналізу. Тут мне спатрэбіцца закон неабходнай разнастайнасці Уільяма Эшбі: «Каб кіраванне сістэмай было магчымым, разнастайнасць кіруючых дзеянняў павінна быць не меншай за разнастайнасць абурэнняў на ўваходзе ў сістэму». Для замацавання думкі можна прывесці і фармулёўку Стафарда Біра: «Адэкватнае кіраванне можа быць забяспечана толькі ў тым выпадку, калі разнастайнасць сродкаў кіраўніка як мінімум не меншая, чым разнастайнасць кіраванай ім сітуацыі».

У гады маёй студэнцкай маладосці на занятках па марксісцка-ленінскай філасофіі мне даходліва патлумачылі, што законы прыроды аб'ектыўныя, г.зн. дзейнічаюць незалежна ад чалавечай свядомасці. Мы можам ведаць законы і дзейнічаць у адпаведнасці з імі, а можа не ведаць — і выбудоўваць свае паводзіны «ад жыцця». Законам ад гэтага не горача і не холадна, чаго не скажаш пра выніковую эфектыўнасць нашых намаганняў.

Хочам мы гэтага ці не, але чара нявызначанасці, ускладнення і разнастайнасці не абмінула і беларускае грамадства. Чым жа адказваюць на выклікі адзіны палітык (АП) і калектыў вертыкальшчыкаў, згуртаваны пад яго кіраўніцтвам? Гэта не таямніца: калі адкінуць прапагандысцкае бла-бла-бла, усё зводзіцца да СПРАШЧЭННЯ, і ў першую чаргу — да спрашчэння сродкаў кіравання!

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. 7 снежня АП разгледзеў кадравыя пытанні. Сярод прызначэнцаў — кіраўнікі адміністрацый раённай і старшыні райвыканкамаў — вертыкаль. Для тлумачэння мне спатрэбіцца цытата з Паслання–2017: «Дрэнная гэта ці добрая вертыкаль улады — кожнаму не дагодзіш. Але гэта тое, што трымае нашу краіну».

Згодна з ужо цытаваным вышэй Уільямам Эшбі, «узровень разнастайнасці элементаў, якія складаюць сістэму, вызначае ўзровень яе стабільнасці... Чым багацейшая складаная сістэма на разнастайнасць сваіх элементаў, тым яна стабільнейшая». Беларуская мадэль трымаецца на ўладнай вертыкалі. З гэтым не паспрачаешся. Але вертыкаль — нешта з часоў вавілонскага цара Навухаданосара (1127–1105 да н. э.). Прасцей і прыдумаць немагчыма!

Таму «адзіны палітык» і паўтарае як замову: «Стабільнасць, стабільнасць, стабільнасць, няма нічога больш важнага за стабільнасць». І ён мае рацыю. Ой як няпроста ў наш час падтрымліваць стабільнасць сістэмы, пазбаўленай гарызантальных сувязяў. Гэта як тэлевежа ў Калодзішчах, але толькі без расцяжак.

7 снежня былі прызначаныя і два рэктары ўніверсітэтаў. Ну што тут можна сказаць? Не дараслі яшчэ беларускія «таварышы навукоўцы, дацэнты з кандыдатамі» да права самастойна выбіраць сабе кіраўніка. Да выбараў кіраўніка дзяржавы дараслі, а да выбараў кіраўнікоў універсітэтаў — не.

**А гэта ўжо выключна палітыка!**

Яшчэ адзін прыклад намаганняў АП па спрашчэнні — чарговая няўдалая спроба РГА «Белая Русь» трансфармавацца ў партыю. Здавалася б, ніякіх аб'ектыўных перашкодаў для гэтага няма, і, паводле заявы старшыні РГА — не апошняга чалавека ва ўладнай іерархіі Аляксандр Радзькова, — масавасць аб'яднання дапамагае яго чальцам знаходзіцца ў глыбокім жывым кантакце з людзьмі, адчуваць змены і вастрыню сацыяльных праблем. Акрамя таго, інтэлектуальны патэнцыял аб'яднання таксама значны. Ён дазваляе весці працу па асэнсаванні тэндэнцый, якія адбываюцца ў краіне, і магчымых траекторый развіцця беларускага грамадства.

«Ну і файна», — скажа чытач. Аднак ёсць адно «але». Як растлумачыў яшчэ ў студзені 2012 года ў праграме «Карціна свету» на канале «РТР-Беларусь» акадэмік Анатоль Рубінаў, АП не хоча ператвараць РГА у партыю, бо ён баіцца наменклатурнай партыі.

Аўтары бестселера «Гвалт і сацыяльныя парадкі» нобелеўскі лаўрэат Дуглас Норт, Джон Уоліс і Бары Вайнгаст прапануюць новы погляд на праблему гвалту, згодна з якім большасць грамадстваў, якія належаць да «натуральных дзяржаваў» (НД), абмяжоўваюць гвалт пры дапамозе палітычнага маніпулявання эканомікай шляхам стварэння прывілеяваных груп інтарэсаў. З іншага боку, сучасныя грамадствы ствараюць парадак адкрытага доступу (ПАД) да эканамічных і палітычных арганізацый, стымулюючы палітычную і эканамічную канкурэнцыю.

Сваё прывілеяванае становішча эліты НД падтрымліваюць за кошт манапольнага права на стварэнне арганізацый, якія карыстаюцца падтрымкай дзяржавы. Даючы доступ да гэтых прывілеяў толькі чальцам пануючай кааліцыі, эліты ствараюць надзейныя стымулы супрацоўнічаць, а не змагацца адзін з адным. Так палітычная сістэма НД маніпулюе эканамічнай сістэмай для стварэння рэнты, якая затым забяспечвае палітычны парадак…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

ЧАРГОВЫ ДЭКРЭТ

# БЫЎ «ДАРМАЕДЗКІ» ПАДАТАК — СТАНУЦЬ «ДАРМАЕДЗКІЯ» ТАРЫФЫ

**Мой знаёмы «дармаед» Віктар пра новы прэзыдэнцкі дэкрэт даведаўся з майго тэлефанаваньня. І вельмі ўзрадаваўся, што ад яго нарэшце адчэпяцца і ня будуць больш спаганяць «дармаедзкі» збор.**

Віктар жыве ў вёсцы на Гарадзеншчыне. Калісьці працаваў мэханікам у калгасе, але калі заробак там зьнізіўся меней як да ста даляраў за месяц, кінуў гэтую безнадзейную справу і падаўся на расейскія будоўлі. Звычайна ён праводзіць у Маскве і Падмаскоўі некалькі месяцаў, будуе там разам з брыгадай такіх жа гастарбайтэраў багатым расейцам катэджы, робіць рамонты ў кватэрах — потым вяртаецца дамоў на адпачынак. І так — ужо другі дзясятак гадоў запар.

У Віктара сям'я, двое ўжо амаль дарослых дзяцей, невялікая хатняя гаспадарка. Жонка працуе настаўніцай. У раскошы сям'я не купаецца, але і не бядуе.

Крыху астуджаю радасьць Віктара згадкай пра тое, што ад «дармаедаў» улады ўсё ж не адчэпяцца: іх зьбіраюцца прымусіць аплочваць «датаваныя дзяржавай паслугі». Але Віктара гэта ня надта турбуе.

— А якія гэта паслугі яны за мяне аплочваюць? Хата ў мяне свая. Вада — з уласнага калодзежа. За дровы і торфабрыкет плачу без усялякіх ільготаў. У нас тут у вёсцы ніякай ЖКГ увогуле няма.

Нагадваю пра адукацыю, пра мэдыцыну. Тут Віктар задумваецца.

Адна дачка ў яго вучыцца на платным аддзяленьні ў Горадні, ва ўнівэрсытэце. Другая — заканчвае школу.

— Дык што, мяне цяпер за школу прымусяць плаціць? А тое, што жонка ў гэтай школе дваццаць гадоў працуе — не залічыцца? Ды і з Канстытуцыі ж, здаецца, права на бясплатную сярэднюю адукацыю не выкрэсьлівалі... А што да мэдыцыны. У нашай раённай паліклініцы бясплатна можна хіба толькі ў чарзе пасядзець. Нядаўна трэба было зуб лячыць — плаціў за ўсё напоўніцу...

Увогуле, ніякіх пэўных адказаў на сапраўды балючыя для беларускага грамадзтва праблемы беспрацоўя і галечы новы прэзыдэнцкі дэкрэт не дае.

Давайце ўважліва ўчытаемся ў тэкст. Хто цяпер падпадае пад дзеяньне дэкрэту, каго будуць лічыць дармаедам? Гэта «вызначыць урад у найбліжэйшы час».

А за якія канкрэтна паслугі давядзецца плаціць «дармаедам» па максымальных тарыфах? Такі пералік складуць чыноўнікі да 1 красавіка 2018 году. А хто будзе кантраляваць, весьці ўлік, вызначаць падвышаныя тарыфы і вызваляць ад іх? Правільна, усё тыя ж чыноўнікі, а дакладней — адмыслова створаныя пастаянныя камісіі, у якія ўвойдуць дэпутаты, адмыслоўцы службы занятасьці, ЖКГ, міліцыі і г.д.

Карацей кажучы, хто пэўна не застанецца бяз справы і бяз добрых заробкаў — дык гэта чыноўнікі. І ўвесь дэкрэт — ня столькі пра «дармаедаў», колькі пра пашыранье чыноўніцкай улады над чалавекам.

А што да «дармаедаў», то ім патрэбныя зусім не чыноўніцкія камісіі і ня іхная бурная дзейнасьць у справе складаньня ўсё новых абмежавальных сьпісаў і правілаў. Калі заробку калгаснага мэханіка Віктару будзе хапаць на тое, каб утрымліваць сям'ю — можаце быць пэўныя, ні пра якую Расею ён і думаць ня будзе. Але дзеля гэтага, напэўна, давялося б адмысловым дэкрэтам абавязаць чыноўнікаў стварацьпрацоўныя месцы ў калгасе, а не «адмысловыя камісіі».

**Валянцін Жданко**
**"Радыё Свабода"**

БУДУЧАЯ КАМПАНІЯ

# ЧЕМ КОЗЫРНЕТ ЛУКАШЕНКО В НОВОЙ ИЗБИРАТЕЛЬНОЙ КОМПАНИИ?

**«Стабильность» и «мирное небо» уже не катят, особого роста благосостояния не предвидится... Белорусские негосударственные СМИ принялись обсасывать тему досрочных выборов. Ее вольно или невольно разогревает председатель Центризбиркома Лидия Ермошина.**

Фишка в том, что по календарю ЦИК следующие президентские и парламентские выборы практически совпадают во времени: для первых дедлайн — 30 августа, для вторых — 10 сентября 2020 года. В интервью телеканалу«Беларусь 1» Ермошина в очередной раз заявила, что эти кампании надо разводить во времени.

Причем на этот раз глава ЦИК высказалась с особой уверенностью и конкретикой: «Я думаю, в конце 2019 года надо проводить какую-то избирательную кампанию. Ноябрь 2019-го — идеальный период для этого».

**А вдруг избиратель проснется?**

А вот мотивация у Ермошиной — та же, что и звучала раньше. Причем достаточно откровенная: «...Две избирательные кампании очень здорово политизируют атмосферу, что не идет на пользу обществу, потому что может дестабилизировать политическую и общественную обстановку».

Вообще-то выборы на то и выборы, чтобы политизировать атмосферу, ставить ребром вопрос о власти. Но это где-нибудь на гнилом Западе.

Для белорусских же правящих кругов идеал — политически коматозное общество. Иначе обыватель, возбужденный агитацией, полемикой, может (тьфу-тьфу) прийти к выводу, что нынешняя верхушка режима засиделась в креслах. Так что лучше пусть ходят на участки без вредных мыслей, пусть, как сомнамбулы, механически (гражданский долг и все такое) вбрасывают бумажки в ящики, а дальше уж — не их ума дело.

Конечно, высказывания Ермошиной о желательных сроках выборов не стоит торопливо трактовать как ретрансляцию уже принятого на самом верху решения.

**Проведет ли Лукашенко выборы со сдвигом по фазе?**

Вспомним: в прошлом году глава ЦИК несколько раз анонсировала совещание у президента по изменению избирательного законодательства. Но никакого совещания мы так и не дождались.

При этом местные выборы, назначенные на 18 февраля, разворачиваются не только по старым законам, но и по старому скучному сценарию — со старательным отсевом «пятой колонны». Пока — на этапе формирования избирательных комиссий, но легко предвидеть, что и в Советы оппозицию пускать не разгонятся (ну разве что в гомеопатических дозах для блезира — показать прогресс гнилой Европе). При этом оппозиционеры и сами не блистают массовым участием: ресурсов и мотивации кот наплакал.

Однако в принципе Александр Лукашенко наверняка склонен разделять мысли главы ЦИК, что политизация народонаселения вредна для устоев. И потому какие-то из грядущих выборов с большой долей вероятности будут приближены…

**Слоган — дело второе**

Впрочем, ни к 2019, ни к 2020 году больших достижений в активе Лукашенко не предвидится. Международные эксперты прогнозируют на этот период скромный — в районе 2% — рост белорусской экономики.

Правительство пыжится, называет цифры повыше, но и для него предел мечтаний — выйти на «траекторию пятилетки». А ее параметры сами по себе более чем скромны. В 2020 году по отношению к 2015-му рост реальных располагаемых денежных доходов населения запланирован лишь в пределах 9,5-11,6%. На практике же экономика два года вообще была в рецессии, доходы проседали.

Иначе говоря, даже если не случится каких-то внешних шоков (перед которыми наша нереформированная, зависимая от России экономика очень уязвима), то к новым выборам средняя зарплата белорусов вряд ли сильно превысит пресловутую тысячу рублей, или те же 500 долларов в эквиваленте, что Лукашенко как великий подарок преподнес к выборам 2010 года.

В грядущей же кампании подавать как великое достижение то, что протоптались на месте целое десятилетие, — совсем уж не комильфо. Не поймет даже невзыскательный белорусский электорат.

Так станет ли бессменный президент искать под выборы какой-то новый слоган, новую ключевую идею с учетом того, что замусоленный лозунг стабильности уже не катит (как и «мирное небо»: шок от украинских событий уже прошел), а резкого роста доходов не предвидится?

Действующему белорусскому руководителю, как и Владимиру Путину, который чувствует себя хозяином положения в стране, нет нужды «особо заморачиваться» предвыборным слоганом, полагает Карбалевич. По его словам, вполне могут быть взяты на вооружение все чаще слышимые в последнее время идеи развития, IT-страны…

**Капремонт избирательной системы откладывается. Опять будет косметический**

Он уверен, что по большому счету и парламентские, и президентские выборы пройдут по традиционному сценарию. Игра властей будет заключаться разве что в мелочах. Например — решат пропустить в Палату представителей не двух (как это было в 2016 году), а трех или четырех депутатов с репутацией инакомыслящих, считает аналитик.

Тем временем Ермошина в интервью БЕЛТА, опубликованном 15 января, вдруг довольно откровенно отметила, что при действующем законодательстве без больших денег либо без значительного административного ресурса собрать сто тысяч подписей для выдвижения на президентских выборах крайне сложно. Председатель ЦИК считает, что было бы неплохо снизить этот барьер, скажем до 70 тысяч.

Можно ли трактовать этот пассаж как намерение властей демократизировать выборы? Что ж, Западу эту вероятную новацию могут именно так и подать.

Однако скорее власти учитывают, что оппозиция стала слабее, беднее ресурсами, а общество — еще апатичнее (и политизировать его режим, как видим, не хочет). Но проводить выборы совсем без оппозиции было бы чересчур сурово даже для Беларуси.

Поэтому планку могут слегка снизить (70 тысяч тоже собрать непросто), при этом оставив в своих руках весь инструментарий, чтобы срезать неугодного претендента (выкопать много недействительных подписей за него и т.п.)…

Белорусские власти постараются, чтобы к очередным президентским выборам у нас подобной опасной фигуры как Навальный и близко не было. Все более усталому на вид, но явно отгоняющему мысли о пенсии официальному лидеру не нужны сюрпризы и нервотрепка.

**Александр Класковский**
**"Белапан"**

НАША ЎЛАДА

# ПОЧЕМУ ОТ БЕЛОРУСОВ СКРЫВАЮТ СОСТОЯНИЕ ЗДОРОВЬЯ ЛУКАШЕНКО?

**О здоровье главы государства белорусы могут судить только с его слов. В то время как другие главы государств через свои пресс-службы хвастаются отсутствием болезней, о состоянии здоровья Александра Лукашенко белорусы не знают ничего.**

**И Путин, и Трамп «абсолютно здоровы», а Лукашенко?**

Президент США Дональд Трамп не имеет никаких отклонений в состоянии здоровья — таковы результаты проведенного обследования, заявил врач Белого дома Ронни Джексон.

На прошлой неделе 71-летний Трамп прошел трехчасовое всестороннее медицинское обследование — впервые после своего избрания на пост президента.

«У меня нет никаких опасений по поводу его когнитивных способностей или неврологических функций... Всё указывает на то, что президент здоров и будет оставаться таковым на протяжении всего своего срока», — цитирует врача Би-би-си. Ронни Джексон добавил, что во многом столь превосходные показатели объясняются тем, что Трамп никогда не курил и не употреблял алкоголь.

Вслед за данными о здоровье Трампа появилась информация, правда, не от врачей, о здоровье президента России Владимира Путин. "Могу вас заверить, что президент абсолютно здоров, может дать фору многим», — сказал пресс-секретарь Путина Дмитрий Песков журналистам, отвечая на вопрос, планируется ли по аналогии с докладом о состоянии здоровья президента США информировать о состоянии здоровья Путина.

Naviny.by задали такой же вопрос пресс-секретарю президента Беларуси Наталье Эйсмонт.

На вопрос, не планируется ли в Беларуси ввести практику информирования общественности о состоянии здоровья главы государства, Эйсмонт ответила: «Я не работаю в медучреждении. Я не медик и не провожу медосмотр. Пока я не могу дать ответ на этот вопрос, не могу сказать «да» и не могу сказать «нет».

Что ж, это означает, что и далее нам придется довольствоваться лишь словами самого президента и неизбежными в условиях информационного вакуума слухами…

**Какие разговоры ходят вокруг здоровья президента?**

Из-за закрытости информации о здоровье главы государства вокруг этой темы то и дело возникают слухи.

Так, 10 июля 2006 года многие СМИ получили электронное письмо якобы от анонимных сотрудников КГБ, в котором утверждалось, что «Лукашенко серьезно болен».

«Ни для кого уже не секрет, что после проведения президентских выборов Александр Лукашенко находился в критическом состоянии — у него случился инсульт», — среди прочего говорилось в письме.

Якобы именно по этой причине и переносилась инаугурация президента в 2006 году, а сам глава государства исчез с экранов телевизоров с 21 марта по 4 апреля.

В КГБ заявили, что это письмо — провокация, а в пресс-службе президента анонимную сенсацию назвали «уткой» и «ложью».

В том же 2006 году австрийское издание Der Standard со ссылкой на информированные круги сообщало, что Лукашенко лечился в Австрии в частной клинике Rudolfinerhaus. В клинике информацию не подтвердили.

Также ходили слухи, что Лукашенко выезжал на лечение в Швейцарию.

Известно, что в ноябре 2014 года Александру Лукашенко сделали операцию на коленном суставе. И это фактически единственный случай, когда о здоровье главы государства сообщили официально и достаточно подробно… Операцию делали в президентской больнице. Правда, в официальном сообщении не уточнялось, на какой ноге — правой или левой — проведена операция и какая она у Лукашенко по счету.

**Почему мы имеем право знать?**

Интерес к здоровью президента не является праздным, а напрямую касается государственных интересов. К тому же статья 11 закона «О президенте Республики Беларусь» гласит, что «президент может быть досрочно освобожден от должности при стойкой неспособности по состоянию здоровья осуществлять обязанности президента».

Интересоваться здоровьем человека, который стоит у руля вот уже более 20 лет, без которого не принимается ни одно важное для страны решение, не является вмешательством в личную жизнь, считает эксперт аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич.

Эксперт считает, что в отношении такой публичной персоны, как действующий президент, от которого зависит благополучие граждан целой страны, не может действовать понятие медицинской тайны. «От здоровья президента очень многое зависит в стране, поэтому народ должен быть информирован о состоянии здоровья главы государства», — заключил эксперт.

*(скарочана)*

**Елена Спасюк**
**"Белапан"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.01.2018 у 17.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.